# НАВІНКІ

21 - 28 лістапада 2002 №26(75) Кошт свабодны




# ВІЗАГЕЙТ

# БАЦЬКА ЗАСТАЎСЯ ДОМА

Мала таго, што Лукашэнку не далі чэскую візу, каб скатацца ў Прагу на саміт NATO, дык беларускаму прэзыдэнту і яшчэ сямі чыноўнікам забаранілі ўезд у 14 эўрапейскіх дзяржаваў. Афіцыйная падстава – парушэньне правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Аднак што насамрэч хаваецца за рашэньнем чэскага МЗС?


**Спэцыяльнае дасьледаваньне на стар.4-5.**


## Будуць высяляць?

Павелічэньне камунальных плацяжоў рэзка ўдарыла ў кадык народным кашалькам. Новыя прайслісты, прапанаваныя ЖЭСамі агаломшаным грамадзянам, аказаліся далёка ня ўсім па кішэні. Адпаведна, пралетарыят не сьпяшаецца расставацца са сваімі кроўнымі і колькасьць неплацельшчыкаў у сталіцы няўхільна расьце. Аднак такой халяве хутка прыйдзе гамон, бо дзяржава вырашыла выкалочваць бабло самым жорсткім чынам. Як пераможна трубіць галоўны гучнагаварыльнік прэзыдэнта газэта *Советская Белоруссия*, ужо знойдзеная панацэя супраць камунальных «зайцоў». Для пачатку неплацельшчыку будуць адключаць сьвятло, потым цяпло й ваду, што фактычна паралізуе функцыянаваньне каналізацыі. Улічыўшы сёньняшні размах камаунальнага непадпарадкаваньня, толькі ў адным Менску ў цемру рызыкуюць пагрузіцца цэлыя мікрараёны. Але гэта толькі кветачкі ў арсэнале барацьбы супраць «скруджаў макдакаў», рэклямаваных *Саўбеліяй*. Калі ж страпцівец, заваліўшыся па вушы ў хаўне, будзе працягваць заціскаць грошы ў кулак, прапануецца... проста высяляць яго з займанай жылплошчы і прадстаўляць яму «жыльлё, адпаведнае ягоным фінансавым магчымасьцям». Пры гэтым работнікі камунальных службаў атрымліваюць права самастойна разьмяркоўваць(!) выселеныя кватэры. Так што неўзабаве можна чакаць хвалі высяленьняў і росту колькасьці рыцараў кардону і бутэлькі.

**МІКОЛКА-ПАРАВОЗ**

*і жыльлёвае пытаньне*


**Сацыяльна-камунальны комікс на стар.8**



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 21.11.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 316

ВІЗА

# ВІЗАВАЯ

## Бацькава крыўда

«Чаму пакрыўдзілі Рыгорыча? Якая гніда першай падкінула чэхам ідэю адмовіць гаранту канстытуцыі ў візе ў часы, калі Радзіма энэргічна варушыць зьнешнепалітычным вэктарам? За што?» – вось душэўны гемарой, які больш за тыдзень не дае спакою бамонду беларускай палітычнай аналітыкі. Па сваёй прымітыўна-маніхейскай накіраванасьці думкі на гэты конт самыя экзатычныя.
Прыдворныя зьняважанага вераломнымі багемцамі вялікага князя РБ ня проста ўпэўненыя ў заакіянскім сьледзе дэмаршу прастытуткі-Гаўла, але і прыпраўляюць гэты банальны факт ноткамі з Армагедону, дзе інтрыжка выстаўляецца здрадай Юдам Іскарыётам выратавальніка калі ня роду людзкога дык па меншай меры ўсяе Цэнтральныя і Усходнія Эўропы. «Выклікае жаль, што кіраўніцтва Чэхіі забылася на тое, што нашыя народы заўсёды змагаліся супраць ЗЛА ў Эўропе, што Беларусь – ініцыятар стварэньня бязьядзернай зоны ў Цэнтральнай Эўропе і адзіная ў сьвеце краіна, якая дабраахвотна вывезла са сваёй тэрыторыі ядзерныя ўзбраеньні і не папрасіла за гэта ані цэнту», – тыражуюцца па ўсёй рэспубліцы гнеўныя словы аднаго з апосталаў афіцыйнай беларускай геапалітыкі, старшыні камісіі Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ па міжнародных справах і нацыянальнай бясьпецы Мікалая Чаргінца.
«Апазыцыйныя» какаду ўвогуле не залупаюцца, а проста завучваюць і паўтараюць заяву чэскага Міністэрства замежных справаў, паводле якога Прага «занепакоеная сытуацыяй у Беларусі, краіне, дзе існуе аўтарытарны рэжым, што ўціскае апазыцыйныя погляды і парушае правы чалавека». Пасьля гэткіх заклінаньняў, у нашых freedom fighters ад уміленьня адразу ўзбудзіліся грантасмактальныя хабаткі і яны апэратыўна ўстаўляюць ў стэрэа-сыстэму сваю заежджаную плястынку з байкамі адпаведнай тэматыкі. І гэта ў-той час, калі сярод запрошаных удзельнікаў саміту як пацукі пладзяцца разнастайныя майстры катаваньняў і мікрагенацыдаў (напрыклад, Турцыя, якая мае сотні палітычных вязьняў, дзясяткі забітых і зьніклых левых актывістаў і мэтанакіравана як клапоў давіць курдаў), побач зь якімі рэпрэсіі шклоўскага мачо – жартаўлівыя наезды п'янага дырэктара саўгасу на танцах у вясковым клюбе. Відавочна, павінен існаваць іншы матыў глумленьня чэхаў над гордым лідэрам беларускай нацыі, чым тыя, што прапануюць нацягнутыя афіцыёзна-апазыцыйныя сымулякры. Каб дапамагчы высьветліць ісьціну, «Навінкі» прапануюць народу свае, значна больш праўдападобныя вэрсіі гэнэзысу беларуска-чэскага канфлікту.




Канфлікт з выдварэньнем місіі КНГ АБСЭ зь Менску стаў зачэпкай для 14-ці краінаў Эўропы, каб заляймаць бацьку невыязным.

## Лукашэнка-антыглябаліст




Пагадзіцеся, у такім прыкідзе Лукашэнку ня тое што Вацлаў Гавэл, Шэйман родны не пазнае.

Чэхія – краіна турыстычная і адмова камусьці ў візе часьцей за ўсё абумоўленая патрэбамі гэтай агіднай індустрыі. Пэрспэктыва хоць трошкі перапужаць багатых замежных наведнікаў Карлавага мосту, замкаў і піўніц Багеміі можа прысьніцца ўладам радзімы Швэйка толькі ў самым жудасным кашмары. Сярод катэгорыі людзей, што ўсё болей пагражаюць адбіць ў сцыклівых нямецкіх, японскіх і амэрыканскіх пэнсіянэраў жаданьне купіць пуцёўку ў Прагу – г.зв. «антыглябалісты», як карпаратыўныя мэдыі абазвалі актыўных крытыкаў нэалібэральнага «сусьветнага ладу». Пасьля мачылава восені 2000 году, калі ў Празе праходзіў саміт МВФ і Сусьветнага Банку, у Гаўла ачко жым-жым. Ад таго часу «гасьцінныя» чэскія амбасады старанна адсочваюць сярод жадаючых наведаць горад над Влтавай усіх падазроных у «антыглябалізме», каб загадзя адмовіць ім у візе. Напрыклад, відаць у помсту за актыўны ўдзел беларускіх анархістаў у тых легендарных дэманстрацыях, некалькі месяцаў таму чэхі паказалі консульскі кукіш папулярнаму панкаўскаму вакальна-інструмэнтальнаму ансамблю Contra La Contra.
Ці не стаіць нядаўняя праская аплявуха Лукашэнку на адной дошцы з той дыскрымінацыяй ваяўнічых музыкаў? Пытаньне не рытарычнае, калі ўзгадаць некалі радыкальныя выказваньні маладога прэзыдэнта наконт пашырэньня NATO. А калі дадаць рэгулярныя заняткі Аляксандра Рыгорыча спортам, то з вусатага лятыфундыста патэнцыйна атрымліваецца круты стрыт-файтэр. Напярэдадні саміту NATO чэскія спэцслужбы маглі даведацца аб ісьцінных плянах вярхоўнага галоўнакамандуючага РБ, які ў перапынках паміж афіцыйнымі мерапрыемствамі саміту меў намер далучыцца да чэскіх анархістаў і «антыглябалістаў-прафэсіяналаў» (ідыёцкі пэрл нейкай Натальлі Судленковай у БДГ, №173) з «Чорнага блёку».
Калі прыйшла навіна аб адмове чэскай амбасады, Прэзыдэнт напэўна як раз складваў бавулы, дзе ўжо ляжаў сьвежавысьціраны выпрасаваны касьцюм антыглябаліста: армейскія берцы, байка з капюшонам, агурковая бандана вытворчасьці «Любавы», аптэчка і два пэрсанальныя раскладныя транспаранты зь яшчэ непадсохлым надпісам па-ангельску «Fuck off NATO!», «No war for oil» («Не вайне дзеля нафты!», яшчэ адзін зь вельмі актуальных для Беларусі лёзунгаў дэманстрантаў). Аляксандар Рыгоравіч летуценна ўяўляў сабе, як пасьля абеду выходзіць з праскага гатэлю «Хілтан», хуценька пералазіць праз паліцэйскія агароджы, збочвае ў тупічок, здымае ненавісны пінджак з бэджам дэлегата саміту і гальштук ды надзявае лыжную парамантанью, якую за апошнія эўра купіў ў Аўстрыі, каб хаваць твар ад паліцэйскіх камэраў. А далей – разбор бруку, бой, кактэйлі Молатава, рукапашная з чэскімі рабакопамі, рызыка, адрэналін, сьлёзацечны газ, апошняя начоўка на падлозе сквоту «Мілада»... Напярэдадні аблому з візай Рыгорыч нават уявіў сабе, як ён, падобна Карлу Джульяні (дэманстрант, застрэлены італьянскімі карабінэрамі падчас пратэстаў у Генуі), ляжыць на дарозе ў чырвонай лужы, і як шматлікія фрэскі зь ягонай выявай упрыгожваюць эўрапейскія сталіцы... Марам не было наканавана збыцца – чэскія жучкі і шпіёнскія датчыкі, напэўна, раскусілі антыглябалісцкія праекты беларускага харызматычнага лідэра. Візу не далі ●

# ЭПАПЕЯ

## Лукашэнка-«упырхлік»

**Магчымасьць, што Лукашэнка стане невяртанцам, згуляла не апошнюю ролю ў рашэньні чэскіх уладаў.**

Ёсьць усе падставы меркаваць, што чэскія ўлады маглі прыняць высокага беларускага госьця за чарговага беларускага невяртанца. Бо, як мы ўжо зьвярталі ўвагу чытачоў на пачатку візавага скандалу (арт. «Ці стане прэзыдэнт упырхлікам», Навінкі, №24), у Лукашэнкі былі ўсе шанцы кінуць косьці ў адным з чэскіх лягераў для палітычных уцекачоў. У запаленых ізьвілінах мозгу чыноўніка чэскай эміграцыйнай службы Іржы Кудлы намалявалася наступная карціна. У дзьверы ягонага кабінэту нехта найстойліва пагрукаў і на парозе зьявіўся вусаты здаравяка з заплечнікам і адразу пачаў: «Я здаюся! Азыль! Мяне перасьледуюць у маёй уласнай краіне!» Пасьля гэтых словаў незнаёмец яўна беларускай зьнешнасьці вывальвае цэлую гару даведак ад праваабарончага цэнтру «Вясна» і Беларускага Хельсінскага Камітэту, змайстрачаных перад самым ад'ездам па сходнай цане. Кірылічныя каракулі чыноўнік, вядома, разьбіраць ня стаў і пасьля невялічкага інтэрвію з грамадзянінам РБ А.Р.Лукашэнкам выпісаў небараку пуцёўку у Чырвоны Уезд – лягер-каранцін для ўсіх перамешчаных асобаў. А потым гэты здаровы бэйбус замест таго, каб прыносіць прыбытак чэскай эканоміцы сваёй стваральнай працай, будзе нахаляву трушчыць роглікі з пашцетам ды раз на месяц атрымліваць па 10 баксаў на піва і цыгарэты. А над лягерам дзе-небудзь у Вышніх Лготах увесь час будзе разносіцца крыкі «Беларусь! Беларусь! Да тэлефону!» і Рыгорыч днямі будзе вісець на дроце, заказваючы пасылкі зь вялікай радзімы. Так-сяк асвоіўшыся на чужыне, Лукашэнка навяжа кантакты зь мясцовай дыяспарай. Ставіць палку і раздаваць лятакі яму ўжо ня выпадзе, таму прэзыдэнту параяць уладкавацца грузчыкам на рынак да віетнамцаў. Маючы гарантаваныя 10-15 баксаў на дзень, зь якіх чэскім падаткавым службам перападае шыш з макам, наш бацька зачасьціць у піўніцы і, заліваючы куфаль-другі «за Беларусь», будзе грэбліва пазіраць на прыжымістых будаўнікоў-украінцаў. А пасьля Рыгорыч доўга будзе калясіць ваколіцы ў пошуках прадуктаў, што будуць таньней хаця б на паўкароны. Ачухаўшыся ад кашмарнага трызьненьня, чыноўнік Іржы Кудла кінуўся да тэлефону і асабіста пераканаў міністра замежных справаў Чэхіі не ламаць лёс беларускаму прэзыдэнту. У выніку патэнцыйны азылянт Лукашэнка застаўся дома ●




## Лукашэнка-«чэх»

Яшчэ адной надзвычай моднай падставай для адмовы ў візе можа быць нацыянальна-этнічны матыў. Што датычыцца Лукашэнкі, то ягоны аблом вынікае не з уласнага прэзыдэнцкага паходжаньня, а хучэй за ўсё з простага абазюднага непаразуменьня.
Як вядома, пасьля крывавага маскоўскага м'юзыклу, пагранцы нашых дэмакратычных заходніх суседзяў і іхных суседзяў могуць вас абшукаць з ног да галавы ці не пусьціць на сваю тэрыторыю толькі таму, што вы нарадзіліся ў Таджыкістане, Грузіі, Азэрбайджане... Асабліва даюць прасрацца чачэнцам. Апошні скандал падобнага кшталту ўзьнік на беларуска-польскай мяжы, дзе якраз незадоўга да саміту палякі забракавалі партыю грамадзян. «Што за безабразіе?» – выращыў умяшацца Прэзыдэнт. Суровыя генэралы Пагранічных войскаў РБ шчыра адказалі: «Ды чэхаў у Польшчу не пускаюць, таварыш вярхоўны галоўнакамандуючы.» Радасьці Рыгорыча не было канца. Ведаючы аб каварных плянах афіцыйнай Прагі, ён падумаў, што тут, у Берасьці, яму нарэшце ўсьміхнуўся лёс. Прыючыўшы чэхаў на гасьціннай беларускай зямлі, можна было лічыць, што запрашэньне на саміт NATO – у кішэні.

Даведаўшыся аб тым, што адна з чэскіх жанчынаў нарадзіла свайго пятага дзіцёнка ў Берасьце і просіць нашага прэзыдэнта стаць яе «хросным» бацькам, Бацька не вагаючыся пагадзіўся і нават даў дзяўчынцы імя Алеся.
Магчыма, наіўны аграрый ня ведаў, што «чэхамі» на ваенным жаргоне завуць зусім не вытворцаў «Гамбрынуса», а выхадцаў Рэспублікі Ічкерыя – чачэнцаў, якім такую мянушку фэдэральныя ваякі далі яшчэ падчас першай чачэнскай вайны.
Нічога страшнага ў гэткай этнанімічнай памылцы не было б, калі б парадненьне Лукашэнкі зь «небясьпечным народам» не насьцярожыла сапраўдных чэхаў. Тых не асабліва цешыла магчымасьць разам з Лукашэнкам убачыць у Празе цэлы тэйп барадатых «хросьнікаў» беларускага прэзыдэнта. Плюс тэрарызм, Буш...
У выніку, 15 лістапада было вынесенае канчатковае рашэньне аб адмове ў візе ●




**Неспадзяванае хросьніцтва беларускага лідэра магло быць няправільна ўспрынятае чэскім бокам.**

## Лукашэнка... памыліўся!

**Каб Рыгорыч уважлівей запаўняў выязныя дакумэнты, сядзеў бы зараз на Вацлаваку і пацягваў бы «Старапрамэн».**




Можа стацца так, што мы дарма напружваем свае шэрыя рэчывы ў пошуках глыбінных прычынаў дэмаршу чэскіх уладаў супраць беларускага высокапастаўленага турыста. Можа й дэмаршу зусім і не было – так, шуміха ў жоўтай прэсе – а прычына адмовы ў выдачы візы ляжыць на самай паверхні. Лукашэнка, хвалюючыся перад паездкай на радзіму Вахмуркі і Кржэмелька, поста выпадкова зрабіў пару памылак пры запаўненьні анкеты.
Пагадзіцеся, няма нічога дзіўнага, калі Рыгорыч, стомлены рыхтаваньнем сваёй прамовы да адкрыцьця саміту, у графе «прафэсія» і ў графе «працадаўца» пазначыў «Лукашэнка», што прыдзірлівыя супрацоўнікі візавага аддзелу патлумачылі «наверх» як пацьверджаньне наяўнасьці аўтарытарнай дыктатуры. А варта было прэзыдэнту зазявацца і ў графе «мэта паездкі» замест «турызму» паставіць «курортнае лячэньне» дык тыя ўвогуле падымалі хай пра парушэньне правоў чалавека ў нашай краіне.
Адрас месца жыхарства ня правільна ўказаў? Дык вядома ж, наш прэзыдэнт увесь час праводзіць у кабінэце ля штурвалу і па месцы прапіскі не зьяўляўся з 1994 году.
Маглі быць і іншыя недакладнасьці, выкліканыя эскаляцыяй напружанасьці вакол гэтай паездкі. Да таго ж арганізатары не захацелі рабіць запрашэньне і бацьку заставалася афармляць візу праз турфірму, якія таксама маглі тое-сёе напартачыць. Але пагадзіцеся, пол і імя па бацьку ў анкеце былі пастаўленыя правільна. Тым ня менш пасольскія букваеды завярнулі анкету назад. Саміт Лукашэнка безнадзейна прадынаміў ●

# МІКОЛКА-ПАРАВОЗ
## і жыльлёвае пытаньне




















































